

# ГЕРАІЧНЫЯ ПОДВІГІ

Нядаўна ўся наша краіна з неаслабнай увагай сачыла за гераічнай барацьбой нашых слаўных байцоў, камандзіраў, палітработнікаў першай Прыморскай арміі Далёка-Усходняга чырвонасцяжнага фронта ў раёне возера Хасан. Японскія захватчыкі, якія пасягнулі на свяшчэнныя рубяжы нашай любімай радзімы, атрымалі сакрушальны адпор.

* *
*

Па сопках праходзіць граніца. Сярод гор і сопак знаходзіцца возера Хасан. Недалёка ад яго, на вышыні Безымяннай, неслі ахову нашы пагранічнікі.

У ліпені месяцы японцы сцягнулі к нашай граніцы вялікую армію, артылерыю, гарматы, бронепаязды. 29 ліпеня рота японскіх салдат атакавала савецкі пагранічны нарад на сопцы Безымянная. Толькі 11 чалавек было ў нашым нарадзе. Але ўсе яны мужна змагаліся супроць некалькіх соцень японцаў. У гэтым баю 5 савецкіх пагранічнікаў былі забіты, астатнія 6 ранены. Хутка падаспеў на дапамогу атрад пагранічнікаў, які выкінуў з нашай зямлі японскіх захватчыкаў.

Праз дзень загрукаталі японскія гарматы. Палкі наглых захватчыкаў рынуліся на Безымянную і Заазёрную.

2 жніўня ў бой з захватчыкамі ўступілі часці Першай (Прыморскай) арміі. Загад быў такі: выступіць на падтрыманне пагранічнікаў і знішчыць японцаў, якія нагла ўварваліся на нашу тэрыторыю.

* *
*

Вышыня Заазёрная скрозь пакрыта чорным дымам. Зямля дрыжыць ад узрываў: японцаў атакавалі стальныя птушкі з чырвонымі зоркамі на крыллях.

Яшчэ не скончылася бамбёжка, а к вышыні ўжо рухаліся танкі.

— Уперад!—раздаецца каманда. Сярод наступаючых чырвоных байцоў бяжыць малады чырвонаармеец Краўцоў. Наперадзе возера Хасан. У яго кірунку трэба прабегчы метраў 500. Праціўнік адкрыў па наступаючых артылерыйскі і кулямётны агонь. Падаюць забітыя і раненыя. Хутчэй-бы дабрацца да варожых умацаванняў! Граміць, біць японскіх гадаў!

Па загаду камандзіра роты Краўцоў пераплывае вузкую частку возера і паўзе па беразе. Злева грыміць кулямёт праціўніка. Краўцоў ловіць кулямётчыка на мушку. Кулямёт сціхае.

Бой цягнецца каля чатырох гадзін, і байцы займаюць акопы праціўніка.

Ноч, але ніхто яшчэ не спіць. На світанні рота зноў рухаецца ўперад. З лозунгам: „За Сталіна, за Варашылава, за шчаслівую социялістычную радзіму!“ байцы кідаюцца на ворага.

* *
*

Чырвонаармеец Сямён Петухоў атрымаў заданне даставіць гранаты на вышыню Заазёрную. Бой на вышыні быў у самым разгары. Пад націскам чырвонаармейцаў японцы, кідаючы зброю, уцякалі.

Але з агнявых пунктаў, замаскіраваных на супроцьлеглым баку, з кулямётаў і гармат працягваўся моцны абстрэл нашай тэрыторыі. Даставіць гранаты і патроны было цяжка. Конь з павозкай праваліўся ў балота. Кожную секунду снарад мог папасці ў павозку. Сямён Петухоў не разгубіўся. Ён хутка прыняў рашэнне. Пакінуўшы павозку з канём пад прыкрыццём, Петухоў браў вязкамі гранаты і паўзком, перабежкамі дастаўляў іх сваім таварышам.

Ад'язджаючы зноў за ваеннымі прыпасамі, Петухоў сустрэў цяжка раненых лейтэнанта і двух чырвонаармейцаў. Ён падпоўз да раненых і па аднаму перанёс іх да павозкі і хутка даставіў на перавязачны пункт.

У баю з японцамі на вышыні Заазёрнай ён выконваў вялікую і цяжкую работу—падносчыка патронаў.







# Панскі яблык

Апавяданне А. ЯКІМОВІЧА

Рысункі А. ШАХРАЯ



На занятках гуртка хатніх гаспадынь бабку Палагею папрасілі расказаць пра сваё жыццё. Агітатар Платон Сцяпанавіч зрабіў перад гэтым даклад аб тым, як жылося працоўнаму народу раней і чаго мы дабіліся зараз у часы росквіту вялікай Сталінскай Канстытуцыі.

Бабка Палагея хоць была па натуры і гаваркая, усё-ж аднеківалася.

— Я не патраплю добра расказаць,—просячыся, прагаварыла яна, калі ўсе падрыхтаваліся слухаць.

— Не скромнічайце, Палагея Іванаўна!— падбадзёрваў яе агітатар, дабрадушна ўсміхаючыся.

Бабка Палагея хвалявалася. Яна думала, з чаго-б ёй пачаць. Не ішло на язык першае слова. Памяць Палагеі не змяніла, і дома яна не раз апавядала пра сваё жыццё. Там гэта было проста і лёгка. А тут-жа яе будзе слухаць цэлы сход.

— Дзе вы нарадзіліся, Палагея Іванаўна, і дзе жылі ў маленстве?—запытаўся агітатар.

Бабка павесялела. Знайшлося першае слова!

— Нарадзілася,—хутка адказала бабка Палагея,—у маёнтку пана... бадай яму калом зямля! забылася, як зваць свайго першага пана. Шмат я іх ведала. Не ўпомніш усіх. Не то Цыбульскі, не то Яндульскі,— ды ліха з ім! Гад быў печаны, як усе яны паны. Паганы, як яго сабакі.

„Памятаю, было мне, каб не салгаць, год сем ці восем. Жылі мы зусім бедна. Андынары[1] панскай ледзь да каляд хапала. А дзяцей нас шмат было. Улетку карміліся чым папала. Тоўчаную кару з вадою елі, шчаўе, лебяду, асот варылі... Яблыкі, дык тыя ласункам былі для нас. Іх можна было перахапіць часамі каля плоту панскага саду: некалькі яблынь стаяла блізка ад плоту, і яблыкі, падаючы, траплялі на дзядзінец.

„Аднойчы ранічкай пабегла я ападкаў шукаць. Аглянулася сюд-туд—не відаць. Бачу: раса патоптана, ну, значыць, падабралі ўжо без мяне. Не адна-ж я ласвалася імі.

„Крыўдна стала ад няўдачы. І есці так хацелася, што хоць лопух грызі. Пакуль некалі маці наварыць якой лебяды—не дачакаешся!

„Я ніяк не магу адарвацца ад гэтага месца. Тупаю як навязаная. Прыглядаюся каля самага плоту. Плот быў з дошак і не вельмі шчыльны. Раптам у адной шчыліне, амаль не паміж дошак, убачыла спелы чырвоны яблык з салодкай яблыні. У мяне дух захапіла. Уся я затрэслася. Дастаць ці адыйсціся? Стаю, як зачараваная, вачэй не магу адарваць ад яблыка. А гэта-ж так лёгка дастаць яго! Варта толькі нагнуцца і працягнуць руку. „Вазьмі, дурная! Ён-жа такі смачны, салодкі“... здаецца шэпча мне нехта.

[1] Замест грошай паны плацілі сваім парабкам самым горшым збожжам і прадуктамі; такая плата называлася андынарыяй.



„Чым больш я стаяла і любавалася яблыкам, тым мацней мне хацелася дастаць яго. Я не думала ў гэты час ні пра стоража, ні пра аканома, ні нават пра самога пана.

„Як-жа мне быць? Асцярожна я нагінаюся. Нясмела пасоўваю руку да плоту, потым у шчыліну і—пальцы мае дакранаюцца яблыка! Сэрца як не выскачыць. Выхватваю руку з яблыкам, а яна—назад не пралазіць.

„Расчараваная, я выпускаю з рукі такую каштоўную здабычу!

„Не, я павінна дастаць яго!—думаю сабе. Цяпер ужо, калі яблык быў у маёй руцэ, мне цяжка з ім разлучыцца.

„Я спрабую выгортваць яблык пальцамі. Гэта было нялёгка, і я шмат часу, мусіць, забавілася. Але вось як праз сон чую панскі голас:

— Кусі, Палкан!

Я ўсхапілася і аглянулася. Куляючыся, як мядзведзь, проста на мяне ляцеў панскі Палкан, вялізны, злы сабака. Ад страху я нема крыкнула, а потым нічога і не памятаю.

„Казалі, што калі пан паклікаў сабаку, я сама не ўстала. Парабкі пазвалі бацьку, і ён забраў мяне поўмёртвую, пакусаную. Бацька не вытрымаў, нешта недалікатнае сказаў пану. За гэта пан выгнаў нас, і мы паехалі шукаць другога пана...“

Бабка Палагея спынілася, глянуўшы на агітатара. Хопіць ці яшчэ расказваць? Але ўсе слухачы былі ў захапленні ад Палагеінага апавядання пра панскі яблык, якое выклікала вялікае абурэнне супроць здзекаў паноў. Яны дружна папрасілі бабку расказаць, як яна жыла потым. Цяпер, увайшоўшы ў ролю, бабка не аднеківалася. Яна расказала, як страціла ў дзесяць год матку. Як, нарэшце, усё-ж яна вырасла вялікай і вышла замуж за парабка. Як цяжка ёй было гадаваць дзяцей і як дажыла да таго, што яна, семідзесяцігадовая бабуля, можа выбіраць у Вярхоўны Совет рэспублікі дэпутатаў і што яе перад людзьмі велічаюць Палагеяй Іванаўнай, як некалі паняў.

Расчулены агітатар шчыра пацiснуў бабцы руку і сказаў:

— Я не памыліўся, Палагея Іванаўна! Вы—маеце што і ўмееце расказваць! Я спадзяюся, што вы не горш раскажаце ўсё гэта на раённым сходзе. Мы так і запішам. Я спадзяюся...

На гэты раз бабка Палагея не адмаўлялася.






*Верш. М. КАЛАЧЫНСКАГА*

Ад цяжару ломяцца сады
І губляюць выгляд свой зялёны.
Даспяваюць сочныя плады:
Дулі, слівы, яблыкі-антоны.

Ледзь вісяць яны. Рукой бяры
Плод празрысты, сокамі багаты.
Бачна аж наскрозь—ў яго нутры
Чорныя, набухшыя зярняты.

Ноччу ветранай такі вось плод
Зваліцца на дол... Тады уранку
Спадышы збірае садавод
У сваю ліповую лубянку.



Дзеці ідуць у школу раніцой,
А садоўнік радасны працуе.
Ён нясе ў калгас здабытак свой
І дзяцей ласкава пачастуе.

Даспявай, багацце, даспявай,
Сад пладамі поўны, сад прыгожы!
Убіраць багаты ураджай
Мы бацькам таксама дапаможам.





# МЫ ваенныя

*Вершы С. МАРШАКА*

На Краснай Плошчы любіць ён
Палкам на збор трубіць,
А як пад ім гарцуе конь,
На выскачку імчыць!





Вы гляньце
На ўдалага,
Падобнага
На Чкалава,
А можа быць,—
На Громава,
Для кожнага
Знаёмага.

Яму яшчэ нямнога год,
Гуляе па паркету,
А павядзе ён самалёт
На бліжнюю планету.



* * *

Эх вы, коні маладыя,
Гладкія, гуллівыя,
Каранныя—вараныя,
Прысцяжныя-сівыя!

Вашы зблытаныя грывы
Добра расчашу я,
Шоўкам вышыю на дзіва
Дарагую збрую.

На тачанцы мы кругом
Па палях праскочым,
Разам з Мішкам медзвядзём,
Храбрым кулямётчыкам!

* * *

Мяцеліца злосна кругом завывае,
Удвох яны пільна сляды разглядаюць.
Ідуць ля граніцы ў завею, ў мароз
Герой пагранічнік і друг яго пёс.

Вінтоўку з пляча пагранічнік здымае,
Халодным прыкладам к плячу прыціскае,
Бо блізка бандыт-здаравіла сядзіць,
Як белы мядзведзь з-за яліны глядзіць.

— Здавайся! — крычыць пагранічнік, — ты чуеш!
І зброю кідай, цябе не крану я.
Цябе прывяду на заставу жывым!—
Ды стрэл праімчаўся, закурыўся дым...

І паў пагранічнік. Вялікая рана.
І вочы яго засланіла туманам.
Ён ловіць затвор аслабелай рукой.
Страляе з вінтоўкі надзейнай сваёй.

Бандыт закружыўся, падбіты у ногу,
Сабака яму перарэзаў дарогу.
Шпіёна за горла імкнецца схапіць.
Гатова! Бандыт нерухома ляжыць.

Бандыту канец! Пагранічніку—слава!
Героя з пашанай спаткала застава,
Цяпер яго лечаць у Маскве дактары...
Так дзеці гулялі у нас на двары.



Пяцітонкі і трамваі...
Я праезд ім дазваляю.
Варта мне руку падняць,—
І яны павінны стаць!



Мы, лялькі, падаем, бывае,
І б'ем сабе насы.
Скакаць вучыцца мы жадаем
У вольныя часы.

* * *

У снег, у дождж, у золь, у буру
Я на вуліцы дзяжуру,
Едуць тысячы машын:
Зісы, форды, эм-адзін,



* * *

Герой танкіст імчыцца ў бой
Без страху і трывогі,
Ламае ўсё перад сабой,
Знікае ўсё з дарогі.

Быў на дарозе крэслаў рад—
І паляцелі ўсе назад.



Быў на шляху футбольны мяч—
І адляцеўся—не пазнаць...

Танкісту пяты год яшчэ,
Мы знаем і загання—
Танкіст курчавы падрасце,
Машына лепшай стане.

Ён павядзе машыну ў бой
Без страху і трывогі,
Знішчаўшы ўсё перад сабой,
Змятаючы з дарогі.



Наш капітан на варце сам,
Глядзіць ў сваю трубу—
Хай толькі загадае нам,
Адкрыем мы стральбу.

Высока горды сцяг вісіць
У родных караблёў,
Ніякім ворагам не быць
Ля нашых берагоў

Пераклаў **Пятрусь Броўка.**

---



# Развітанне

***Якуб Колас***

Лецейка, ты лета,
Гучна песня спета.
Весела было!
Бралі поўнай чарай
Шчодрасць тваю, дары—
Сонца і святло.
Цешыла ты дзетак
Ды ласкава гэтак—
Матчынай рукой:
Воляй маладою,
Цёплаю вадою,
Чыстаю ракой,

Полем і лясамі,
Спевам-галасамі
Ясных дзён тваіх.
Мыла іх расою,
Сонцавай касою
Уцірала іх...
...Чарай асалоду
Чэрпалі, як воду,
Поўнаю, за край.
Залатое лета!
Дык прымі-ж за гэта
Шчырае „бывай“!



# ПАЎЛІК МАРОЗАЎ

*(Урывак з аповесці А. ЯКАЎЛЕВА)*

*Шэсць год назад у далёкай тайзе каля вёскі Герасімаўкі гераічна загінуў ад рукі класавага ворага юны піонер Паўлік Марозаў.*

*Кожны піонер і вучань павінен так-жа ненавідзець і выкрываць ворагаў, як гэта рабіў Паўлік Марозаў.*

---

— Мама, за што бацьку грошы далі? Га?

— А ты маўчы,—ціха зашаптала маці,—даюць і няхай. А за што—не ўсё табе роўна?

— Не, ты скажы.

— Ды за нейкія паперы з пячаткамі. Мужыкі едуць з гэтымі паперамі, куды ім трэба.

І маці не спяшаючы, як аб самай простай справе, расказала: у суседняй вёсцы жывуць кулакі, якія прысланы з другога краю. Кулакам хочацца вярнуцца дадому, і вось яны купляюць у бацькі фальшывыя дакументы.

— А ў дакументах напісана, што яны бедныкі. Бедняку ўсюды дарога.

„Вось яно што! Бацька дапамагае кулакам..."

Паша апусціўся на лаўку і доўга сядзеў моўчкі.

— Мама, як-жа нам быць?—запытаў ён нарэшце.

— А нам дык што? Яго справа. Пападзецца—яму ў турме сядзець, а не нам. А ты ведай ды маўчы.

— Ну не. Я маўчаць не буду! Мне-б толькі напэўна даведацца, ці праўда, што ён прадае дакументы.

У гэту ноч бацька не прышоў начаваць. Маці неспакойна варочалася на пасцелі за перагародкай. Паша ўздыхаў і пакутліва думаў: „Як быць? Бацька... бацька стаў ворагам рэвалюцыі. З ворагамі трэба змагацца. Але-ж ён бацька..."

***

... Увесь вечар Паша таміўся думаючы.

Доўгімі паказаліся яму гэтыя пяць дзён. Дзесяткі раз ён рашаў і перарашаў. І ўсё-ж такі, даведаўшыся, што Самсонаў прыехаў, ён рашуча пайшоў да яго.

Самсонаў сядзеў у вуглавым маленькім пакойчыку сельсовета. Убачыўшы Пашу, ён усміхнуўся:

— А прыяцель, здароў! Як жывеш?

Паша сеў к сталу і ад хвалявання спачатку нічога не мог сказаць.

Самсонаў цікаўна паглядзеў на яго і занепакоіўся:

— Што з табой? Бяда ці што здарылася?

— Так, здарылася бяда...—прарываючымся голасам адказаў Паша.

— Што такое? Бацька захварэў?

— Не, ён не захварэў. Ён... стаў браць узяткі... з кулакоў.

— Што-о?—нахмурыўся Самсонаў і вострымі вачыма глянуў прама ў твар Пашы.—Не можа быць! Ты нешта блытаеш.

— Не, я не блытаю.

І ён расказаў усё.

Самсонаў устаў і нервова прайшоўся па пакою. Твар у яго пабурэў, вочы сталі злоснымі.

— Добра,—адрывістым голасам сказаў ён.— Мы ўсё гэта расследуем. Ну-ка скажы, калі гэта было?

Ён сеў к сталу і пачаў запісваць, што гаварыў яму Паша.

— Ты пакуль нікому не расказвай, аб чым гаварылі. Добра?

Развітваючыся, ён пацiснуў Пашу руку.

— Ты добра зрабіў. Як сапраўдны піонер.

... Раніцай па ўсёй вёсцы трывожна загаварылі:

— Старшыню ноччу арыштавалі. І двух членаў сельсовета павезлі ў Таўду.

І ўжо адкрыта расказвалі: старшыня прадаваў фальшывыя дакументы. Адзін міліцыянер пераапрануўся ў прыватную адзежу, прышоў к Трафіму і за вялікія грошы купіў у яго дакументы. Арыштаванага Трафіма прывялі ў сельсовет—ён усё адпіраўся, гаварыў, што ніякіх дакументаў не прадаваў. Тады міліцыянер выняў дакументы і сунуў яму прама ў нос.

— А гэта што? Не ты іх прадаў?

Трафім як стаяў, так і шлёпнуўся на лаўку.

І ў Герасімаўцы ўсе пыталі адзін другога:

— Праз каго толькі даведаліся?

***

... Суд над Трафімам быў у выхадны дзень у самым вялікім класе герасімаўскай школы. Народу набілася ў класе столькі, што палец не прасунеш. Прыезджы з Таўды суддзя прачытаў абвінаваўчы акт: Трафім абвінавачваўся як злосны ўзятачнік, як заступнік контррэвалюцыянераў. Прыціхшы Трафім паглядаў спадылба на суддзю. Ён зноў пачаў усё адмаўляць.

— Пазавіце сведку Паўла Марозава,—распарадзіўся, нарэшце, суддзя.

Пашу пазвалі з суседняга класа, дзе знаходзіліся сведкі. Ён увайшоў і стаў перад сталом. Над яго вялікім ілбом тырчком стаялі кароткія валасы. Вочы глядзелі рашуча.

— Колькі вам год, Павел Марозаў?—звярнуўся да яго суддзя.

— Дванаццаць.

— Ці родзіч вы падсуднаму?

— Так, я яго сын.

— Што можаце расказаць па данай справе?

Паша павярнуўся тварам к бацьку, той сядзеў хмуры, злосна глядзеў прама на яго. Потым Паша глянуў на аднавяскоўцаў, што сцянай стаялі навокал: сотні вачэй упіліся ў яго, чакалі.

— Дзядзенька суддзя,—пачаў Павел хвалюючыся,—мой бацька вінават ва ўсім. Гэта я расказаў упаўнаважанаму па яго справе...

... Суд раіўся доўга. Мала-памалу народ вышаў на вуліцу. Тут усе раздзяліліся на партыі: адны за Пашу, другія супроць. Спрачаліся так, што было чутна па ўсёй вёсцы. Але вось нехта крыкнуў:

— Суд ідзе!

І натоўп зноў паваліў у клас. Суддзя прачытаў прыгавор:

„Былы старшыня сельсовета Трафім Сергеевіч Марозаў прыгаварваецца за свае злачынствы на дзесяць год з суровай ізаляцыяй“.

# ХІТРЫ МУЖЫК

*Руская народная казка*

Прышоў мужык у сядзібу, спыніўся ля панскага двара, а на двары ходзіць свіння з парасятамі. Вось мужык зняў шапку і кланяецца свінні. Убачыла гэта з акна пані і гаворыць служанцы:

— Ідзі запытайся, чаго мужык кланяецца.

Пытаецца служанка:

— Мужычок! Чаму ты свінні паклоны б'еш?

— Матухна! Далажы пані, што ваша свіння маёй свінні радня, а ў яе сын заўтра жэніцца; дык на вяселле прашу. Ці не адпусціць свінню ў сваццi, а парасят у праважатыя?

Пані, як выслухала гэта, і гаворыць служанцы:

— Які дурань! Просіць свінню на вяселле, ды яшчэ з парасятамі. Ну што-ж! Хай людзі пасмяюцца. Прыбяры хутчэй свінню ў маю шубу ды загадай запрэгчы ў павозку пару коней. Хай не пехатой ідзе на вяселле.





Запрэглі павозку, пасадзілі ў яе прыбраную свінню з парасятамі і аддалі мужыку. Ён сеў і паехаў назад.

Вось вярнуўся з палявання дамоў пан. Пані яго сустракае, сама ад смеху памірае:

— Ах, душанька! Не было цябе, не было з кім пасмяяцца. Быў тут мужычок, кланяўся нашай свінні. „Ваша свіння,—гаворыць,—маёй свінні радня“, і прасіў яе ў сваццi, а парасят у праважатыя.

— Я ведаю,—гаворыць пан,—ты яе не аддала.

— Адпусціла, душанька! Прыбрала ў сваю шубу і дала павозку з парай коней.

— Ды адкудь-жа мужык?

— Не ведаю, галубок!

— Гэта выходзіць: не мужык—дурань, а ты—дурная!

Раззлаваўся пан, што жонку абманулі, выбег з палацаў, сеў на каня і паскакаў

даганяць. Чуе мужык, што пан яго нагание, завёў коней з павозкай у густы лес, а сам зняў з галавы капялюш, абярнуў на зямлю і сеў каля яго.

— Гэй, ты, барада!—закрычаў пан.—Ці не бачыў—ці ехаў тут мужык на пары коней? Яшчэ ў яго свіння з парасятамі ў павозцы.

— Як не бачыць! Ужо ён даўно праехаў.

— У які бок? Як-бы мне яго дагнаць?

— Дагнаць—не ўстаць; таго і глядзі заблытаешся. Табе, мабыць, дарогі невядомы?

— Паязджай, брацец, ты. Злаві мне гэтага мужыка.

— Не, пан, мне ніяк нельга: у мяне пад капялюшом сокал сядзіць.

— Нічога, я папільную твайго сокала.

— Глядзі, яшчэ выпусціш. Птушка дарагая, мяне гаспадар са свету тады зжыве.

— А што каштуе сокал?

— Ды рублёў трыста будзе.

— Ну, калі ўпушчу, дык заплачу.

— Не, пан! Хоць цяпер ты абяцаеш, а што пасля будзе—не ведаю.

— Ну, калі ты не верыш, вось табе трыста рублёў на ўсякі выпадак.

Мужык узяў грошы, сеў на каня і паскакаў у лес, а пан застаўся пусты капялюш пільнаваць.

Доўга чакаў пан: ужо і сонейка заходзіць, а мужыка няма і няма.

— Чакай: пагляджу, ці ёсць пад капялюшом сокал. Калі ёсць, дык прыедзе, а калі няма, дык і чакаць няма чаго!

Узняў капялюш, а сокала і не бывала!

— Які нягоднік! Напэўна-ж гэта быў той самы мужык, што пані абмануў.

Плюнуў са злосці пан і паплёўся да жонкі.





# ШПАКІ

*Верш А. ЖАЎРУКА і А. УШАКОВА*

З новых дошчачак ад тары
З-пад алоўкаў і кніжок
Збудавалі мы з Тамарай
Белы чысценькі дамок.

Як сады зазелянелі,
Зашумелі ручайкі—
К нам з-за мора прыляцелі
Два вясёлыя шпакі.

Аглядзелі дом навокал:
Зверху, знізу і з бакоў—
І прыветна,
І высока—
Чым не дача для шпакоў!

Нацягалі траў, саломкі,
Цэлы дзень іх голас звонкі
Весяліў шпачыны дом.

Там жылі сабе ўсё лета
Два вясёлыя шпакі.
Ад сняданняў іхніх
З кветак

* * *

Зніклі вусені, жукі...
Чатырох маленькіх дзетак
Потым вывелі шпакі.

Толькі сонца пачынае
Залаціцца на расе,—
Мама песні ім спявае,
Папа ім жучкоў нясе.

А калі прышлі туманы
І зжаўцеў пад рэчкай гай,—
Нашы госці ў хмуры ранак,
Далучыўшыся да стай,
За моры,
За акіяны,
Паляцелі ў цёплы край.

Апусцеў дамок вясёлы,
Змоўклі песенькі шпакоў.
Мы пайшлі з Тамарай ў школу,
Мы за кніжкі селі зноў.

Як увесну загавораць
Ў цёплай глебе раўчакі,
Прыляцяць к нам зноў з-за мора
Нашы слаўныя шпакі.



# Буськова заслуга

Апавяданне М. ЦЭЛЕША.

Рысункі К ГЕДДА

Вадзік, Лёнька і Борык адпачывалі гэтым летам у санаторным лагеры пагранатрада. Вядома, з імі быў і Буська. Ён ужо вырас, быў добра выдрасіраван хлопчыкамі і заўсёды ведаў, што ад яго хочуць.

Калі яны ішлі па цёмнай алеі да белага будынка лагера, які віднеўся праз прасветы старога сада, у іх было адно невырашанае пытанне; „А што будзе з іх Буськам?“ Рашылі спачатку пайсці без сабакі і праверыць што і як? З боку алеі рос густы дзікі маліннік. Хлопчыкі зайшлі ў малліннік і загадалі Буську ляжаць, пакуль яны не вернуцца. А самі з пуцёўкамі пайшлі ў лагер.

Тут ім усё вельмі спадабалася. Як відаць, адпачываючыя прыемна праводзяць час.

Тры сябры абыйшлі вакол прыгожай будовы і накіраваліся да пад'езда. Тут іх ласкава сустрэла пажылая жанчына ў акулярах і ў белым халаце.

— А-а-а, навічкі!—сказала яна, прыемна ўсміхаючыся.—А якія чорныя, у пыле!? Зараз-жа ў ванну!

Хлопчыкі многазначна пераглянуліся.— „Бедны Буська! Доўга табе прыдзецца чакаць там!“ Але жанчына зноў загаварыла:

— Спачатку вас прымем, а потым у ванну!

— Пакуль дайшлі, запыліліся,—сказалі ўзрадавана хлопчыкі.

Потым іх спыталі:

— Вас колькі, трое?

Хлопчыкі зноў пераглянуліся: „Прызнацца ці маўчаць? Лепш адразу прызнацца“.

— З намі тут чацверты,—сказаў Борык.

— Дзе ён?

— У малінніку ляжыць, у садзе.

— Што ён—хворы? Чаму-ж вы яго пакінулі аднаго?

— Не, ён здаровы.

— А дзе яго пуцёўка? Чму-ж ён не заходзіць? Сароміцца, баіцца?

— Пуцёўкі ў яго няма, і ён не сароміцца і не баіцца...

— А як-жа?

— Ды проста так.

— Як, так?

Тры сябры ўсміхнуліся.

— Што-ж вы маўчыце?

— Ды гэта наш Буська,—сказаў Борык.— Мы ідзем у лагер, а ён ад нас не адстае. Увесь час бяжыць за намі, хоць страляй.

— Колькі год вашаму Буську?

— Другі год пайшоў —адказаў Вадзік.

— Аб кім вы гаворыце?—спытала жанчына.

— Аб сабачку, Буську!

Жанчына рассмяялася.

— Ах, дзівакі вы такія,—сказала яна, гладзячы хлопчыкаў па галоўках.—Дык вы-б даўно так сказалі! Прывядзіце яго сюды!

Дзеці ў момант збегалі за Буськам.

Яго аглядзелі, прызналі дастойным таго,



каб залічыць на самастойны парцыён і змясцілі ў будку, якую зрабілі з парожніх скрынак ад таматаў і кансерваў.

За лагерам глыбокімі вірамі, зарослымі зялёным сітняком, затокамі, пясчанымі быстрымі перакатамі звівалася па зялёнаму лугу рэчка. Далей, за рэчкай, пачынаўся вялікі лес.

У гэты лес хлопчыкі санаторнага лагера вадзілі вучыць Буську.

Аднаго разу яны сядзелі на ўзлеску і чакалі, пакуль вернецца Буська з Вадзікавай шапкай, якую яны схавалі далёка ў лесе і паслалі сабаку знайсці і прынесці. Было пад поўдзень. Гарачымі струменямі лілося на зямлю сонца. Дзеці сядзелі ў цяньку густой елкі і глядзелі, як адна за другой выбягаюць з лесу каровы і труцца аб кусты, зганяючы аваднёў. Раптам на ўзлеску паказаўся Сілівей. Пастух, не зважаючы на спёку, скінуўшы сваю світку, з якой ён не расставаўся ніколі, шпарка бег па полю. Убачыўшы хлопчыкаў, ён нібы ўзрадваўся, і пачаў іх клікаць да сябе, шпарка махаючы рукой.

— Дзе ваш сабака?—спытаў ён трывожна ў падбегшых.

Вадзік і Лёнька спалохаліся: „Ці не ваўкі яго злавілі?“ Але Сілівей папярэдзіў:

— Знайдзіце яго хутчэй і бяжыце туды ў лес...

— Чаго, дзядзька Сілівей? — спытаў Лёнька.

— Там некага ловяць,—адказаў пастух, аддыхваючыся.

Хлопчыкі ўскочылі і пабеглі. Асцярожна ступаючы па ўсыпанай зжоўклай іглiцай і леташнім лісцем зямлі, хлопчыкі пасоўваліся наперад. Але нідзе нікога не было.

Па сырой, цмокаючай пад нагамі зямлі хлопчыкі прайшлі яшчэ трохі ўперад. Раптам Буська настаражыў вушы. Хлопчыкі спыніліся, заціхлі... На сцежцы, вядучай праз „Гнілы ручэй“, паказаўся нетутэйшы чалавек. Ён не ішоў, а бег напрасткі, прадзіраючыся праз кусты і густы ельнік. Шэры пінжак на ім быў увесь пашматаваны і звісаў лахманамі з плячэй. Твар яго быў спалоханы, скажоны. Ён паціху стагнаў, енчыў. Хлопчыкі адразу зразумелі, што гэта той самы, аб кім гаварыў пастух.

Незнаёмы, не заўважыўшы дзяцей, прабег міма. Буська хацеў забрахаць, але Вадзік сціснуў яму зеў, грозна махаючы кулаком.

— Вы ідзіце з Буськам за ім, я пабягу на заставу,—сказаў шэптам Лёнька.

Буську пусцілі ўперад, а самі пайшлі за ім, прадзіраючыся праз закрываючыя дарогу расліны. Сабака, пачуўшы крокі ўцякаючага, не вытрымаў і злосна заенчыў.

— Трэба даганяць!—сказаў Вадзік і, пусціўшы Буську, загадаў:—Чужы! Буська, вазьмі!

Раптам з усіх бакоў ажылі кусты і праз іх паказаліся людзі.

— Ёсць! Тут, тут!—закрычалі яны.

Трэск ламачча пад нагамі, мітусня, хрып чалавека і сабакі. Калі дзеці падбеглі, Буська трымаў шпіёна вострымі зубамі.

— Звяжыце яго!—загадаў пагранічнік калгаснікам.

З рук дыверсанта выпаў маўзер...



# Коцік

Казка Я. ГЕРАСІМОВІЧА
Рысункі А. ВОЛКАВА

I

Занядужаў шэры коцік,
Баляць зубкі, баліць роцік,
Не бярэ ні піць, ні есці,
На палок не можа ўзлезці.
Стогне, енчыць апаўночы,
Абамлеў, заплюшчыў вочы,
Высах, высмаг,—адны драбкі,
Пазвісалі з ложка лапкі.
Скачуць мышкі каля пасткі,
Дзеляць крупы на тры часткі.
На паліцы звіняць шклянкі,



Ладзяць мышкі пагулянкі,
Ходзяць, скачуць, выцінаюць,
Смерці коціку жадаюць.
Горка плача кошка-рыска,
У слязінках яе мыска.
Ходзіць рысачка, сумуе,
Пільна коціка вартуе.
Ды бядуе: „Каў-кур'яў,
Ой, хаця-ж бы ачуняў!"
А тут дзеткі-кацяняткі
Пазбягаліся да маткі,
Просяць кашкі, просяць мяска,
О як рысцы стала цяжка!
Што ёй зараз загадаць?
Трэба доктара пазваць!

II

Каля плоту на гары
Шпацыруюць дактары—
Жоўты пеўнік і індык.
„Кукарэку! Лык-кулдык!"—
Раз-ураз крычаць, гукаюць,
Зелле рознае збіраюць.
Хто папросіць—рады даць,
Каб адразу ачуняць.
Шмат гадоў яны лячылі,
За хваробамі сачылі;
Ратавалі і ад смерці,

Калі меўся хто памерці.
Кошка-рысачка галосіць,
Дактароў у хатку просіць.
Чуюць пеўнік і індык
За сцяною шум і крык.
Набліжаюцца да хаткі,
А насустрач кацянняткі,—
Просяць іх зайсці ў хатку,
Ратаваць ад смерці татку.
Дактары ўвайшлі спаважна
І лячыць ўзяліся важна.
Носяць мазі, носяць лекі
І з палічак і з аптэкі.
Вось прынеслі скрынку ваты,
Марлі скрутак дужаваты,
Разлажыў індык мікстуру,
Пеўнік зняў тэмпературу,
Пульс памацаў і паслухаў,
Месца хворае падзьмухаў,
Потым стаўшы каля лаўкі,
Прыпусціў чатыры п'яўкі:
— Няхай, кажа, смокчуць кроў,
Абы коцік быў здароў!
Стаў наш коцік варушыцца,
Папрасіў вады напіцца,
Выпіў кубачак вады
Ды пачаў прасіць яды.
Скрылік хлеба моўчкі з'еў,
Стаў на лапкі, падужэў,
А пасля такой папраўкі,



Паскідаў зубамі п'яўкі,
І міргнуў на кошку-рыску,
Каб яму прынесла мышку.
Папалохаліся мышкі,
Паўцякалі ўсе на вышкі,
А з тых вышак у куточкі,
Пазалазілі пад бочкі,
Селі, ціханька сядзяць,—
Нельга выйсці пагуляць.







# У ПЧОЛЬНІКУ

Апавяданне АНДРУХОВІЧА

Рысунак А. ШАХРАЯ

I

Быў цёплы жнівеньскі дзень, калі мы з братам пайшлі падглядаць пчолы. Брат надзеў на галаву густое сітца, узяў вялікую міску для мёду. Следуючы яго прыкладу, я надзеў сітца таксама. Ідучы паперадзе, брат гаварыў:

— Калі будзем падглядаць, то ты будзь асцярожным, не забі ні адной пчалы. Рукі мы памажам мёдам, і яны не будуць кусацца.

Падгляд пчол для мяне быў цікавым. Але я, прызнацца, крыху баяўся, і на ўсякі выпадак пакінуў адчыненымі вароты ў сад, дзе стаялі вуллі з пчоламі. Мы падышлі да вуллёў. Адна за адной вылятаді пчолы з вулля і ўляталі назад з багатай дабычай салодкага расліннага сока—нектару. Працоўны дзень пчол быў у самым разгары. Я хутка падаў брату нож. Ён адчыніў дзверцы вулля і пачаў выразаць мёд. Гучна загулі, заварушыліся пчолы і сталі абараняць сваё багацце ад няпрошаных гасцей. Цэлым роем накінуліся яны на брата, але ён не бараніўся, спакойна вырэзваў мёд. Потым яшчэ больш на мяне. Я быў без пінжака, у адной рубашцы і пчолы пачалі мяне жаліць. Забыўшыся пра парады брата, я забіў некалькі пчол. Раззлаваныя яны кусалі часцей, і кожны раз я ўдараў кулаком па балючым месцы.

II

Пчолы ўвесь дзень былі неспакойныя. Нікога не пускалі ў сад. Гусака, які неяк залез туды, яны так скусалі, што той ледзь прыцягнуў ногі. Назаўтра ішоў дробны дожджык. Неба завалаклося шэрымі хмарамі. Пчолы не вылятаді з вуллёў. А пад вечар, калі крыху распагодзілася, я заўважыў незвычайнае з'явішча. Некалькі пчол, набраўшы мёду ў чужым вуллі, неслі яго ў свой. Але на поўдарозе іх дагналі пчолы з таго вулля, і пачалася сапраўдная пчаліная бойка. З кожнай мінутай з аднаго і другога вулля пчол усе прыбаўлялася. Хутка яны звіліся ў вялікі рухаючыйся клубок, бзыкаючы, кусалі адна адну. Я пазваў брата. Ён прыбег з вядром вады і пачаў абліваць пчолы. Мокрыя, змучаныя яны павольна разляцеліся па сваіх вуллях.

— Яны маглі-б закусацца,—сказаў брат, бяручы пустое вядро. З таго часу я кожны дзень наглядаў за пчоламі.





**ЦАНА 30 кап.**

# НАШ РЫБАЛКА

*Вершы К. ЦІТОВА* *Рысункі Н. МАЛЕВІЧА*




1. Наш рыбалка ў кніжцы бачыць,
Што, каб рыбы больш спаймаць,—
Трэба вудачку не йначай,
Як у мора закідаць.
Робіць ён шырокі ўэмах...




2. Размахнуўся І... о, жах!
Раптам штосьці зазвінела
У рыбалкі за спіной
І з гудзеннем праляцела
Над ягонай галавой.




3. Валасы ў рыбалкі дыбам.
Ён збялеў, аслупянеў:
Чайнік-жа мільгнуў, як рыба,
І... суседа—па спіне.




4. І сусед схапіць жадае
Чайнік і бяжыць—ды дзе!
Чайнік, бумкнуўшы, знікае
Дзесьці воддаль у вадзе.




5. Наш рыбалка лёску цягне,
Аж напружыўся ўвесь,
Ён хутчэй пабачыць прагне,
Што-ж за вудачкай плыве?




6. Лёска луснула, вудзілька,
Спінінг разляцеўся ўпрах.
З мора-ж вышаў... вось дык дзіва!
Плывец з чайнікам у руках!

**Рэдактар І. МАСАРСКІ** **Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА** **Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.**

Друкарня імя Сталіна, Менск. 16037 экз. Зак. № 3813. Уп. Галоўліта БССР № 2378.